№ 10(165)
15 – 21
сакавіка 2001 г.

Заснавана ў ліпені 1997 г.

http://kapp.nsys.by

# рабочы

ШТОТЫДНЁВАЯ МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

**192** дні да прэзідэнцкіх выбараў



## 25 сакавіка — Дзень Волі

Нагадваем: кіраўнікі дэмакратычных партый, прафсаюзаў, жаночыя і маладзёжныя арганізацыі, дзеячы беларускай культуры — усяго 100 чалавек — падалі заяўку ў Мінгарвыканкам на правядзенне шэсця, мітынгу і канцэрта, прысвечаных выдатнаму беларускаму святу — Дню Волі.

**Збор у Мінску — 25 сакавіка ў 14.00 на Юбілейнай плошчы ля кінатэатра "Беларусь" (ст. метро "Фрунзенская").**

*Само свята пройдзе з 15.00 да 18.00 гадзін на плошчы Свабоды (паблізу ст. метро "Кастрычніцкая") паміж праваслаўнай і каталіцкай катэдрамі ў скверы, дзе днём свае карціны выстаўляюць мастакі.*



## Галіне Лукашэнка вернуць мужа

***Гэта Галіне Радзівонаўне ўрачыста пабяцалі маладыя людзі, якія 8 сакавіка правялі ў Мінску арыгінальную акцыю.***

У гэты дзень прадстаўнікі Маладога Фронту ў раёне Камароўскага рынку, стадыёна "Дынама", кінатэатра "Мір" і Трактарнага завода віншавалі сустрэчных дзяўчат і жанчын са святам, а таксама раздавалі прахожым улёткі-звароты ад маладзёвай кааліцыі "Переменаў!". У іх прапаноўвалася прыватна павіншаваць Галіну Радзівонаўну, даслаўшы ёй паштоўку ў вёску Рыжкавічы Шклоўскага раёна. Былі пазначаны таксама і нумары пэйджэраў, на якія можна перасылаць свае пажаданні. *«Хутка выбары, і мы пастараемся зрабіць ёй найлепшы падарунак – вярнуць мужа дахаты»,* — даводзілася ва ўлётках.

Падчас іх раздачы ў раёне Камароўкі міліцыянты затрымалі трох маладых людзей. Пазней іх адпусцілі, запісаўшы каардынаты і катэгарычна забараніўшы далейшае распаўсюджванне ўлётак. У хуткім часе, паводле сведчання відавочцаў, раён сталічнага рынку літаральна кішэў міліцэйскімі патрулямі, але затрымаць больш нікога не змаглі.

У той жа дзень у паштовым аддзяленні вёскі Рыжкавічы маладыя апазіцыянеры пакінулі падарункі для Галіны Лукашэнкі – аўдыёкасеты «Народнага Альбома», гурта «NRM» і альбома «Мора кахання».

Як лічаць маладафронтаўцы, акцыя прайшла добра. Людзі, прачытаўшы ўлёткі, у большасці выпадкаў весела рагаталі, а ў хуткім часе на пэйджэры прыйшлі і першыя паведамленні: першай лэдзі пачціва жадалі ўсяго найлепшага, а галоўнае – абавязковага вяртання мужа дахаты.

**ДАРЭЧЫ**

**А ў Віцебску сябры мясцовай філіі арганізацыі "Моладзь АГП" таксама правялі адмысловую акцыю. Яны распаўсюджвалі ў вышэйшых навучальных установах горада ўлёткі з заклікам да жанчын – каб абралі годнага мужчыну-прэзідэнта.**



## Судзяць Шчукіна-"хулігана"

***Змагар за правы чалавека "нумар адзін" – зноў на лаве падсудных. У чацвер у судзе Цэнтральнага раёна г.Мінска распачынаецца судовы працэс над Валерыем Шчукіным за ўчынены ім "штурм" Міністэрства ўнутраных спраў. Вядомага праваабаронцу, журналіста "Народнай волі" на гэты раз абвінавачваюць у хуліганстве.***

Нагадаем, што 16 студзеня міліцыянты адмовіліся прапусціць яго на прэс-канферэнцыю свайго міністра Уладзіміра Навумава, што ладзілася ў МУСе. Пры затрыманні Валерыя Шчукіна было разбіта шкло ў дзвярах, ён моцна парэзаўся і быў дастаўлены ў ваенны шпіталь. І ў той жа дзень супраць Шчукіна ўзбудзілі крымінальную справу за хуліганства.

Сам Валерый Аляксеевіч, зразумела, вінаватым сябе не лічыць.

Пачатак разгляду судовай справы "Шчукін супраць міліцыянтаў" прызначаны на ***15 сакавіка а 10 гадзіне.***

## "Дзікае паляванне" працягваецца

***11 сакавіка ўвечары на чыгуначным вакзале ў Мінску супрацоўнікі міліцыі і пракуратуры затрымалі старшыню выканкама Аб'яднанай грамадзянскай партыі Яўгена Лабановіча. Гэта адбылося за некалькі хвілін да адпраўлення цягніка Мінск – Масква. Прадстаўнік АГП накіроўваўся ў расійскую сталіцу для сустрэч з тамтэйшымі палітыкамі, і адной з галоўных тэм перамоваў мелася стаць пытанне аб зніненні вядомых людзей у Беларусі.***

Яўгена даставілі ў вакзальны пастарунак, дзе прымусова агледзелі, як сцвярджаюць яго калегі, з ужываннем фізічнай сілы. Пры гэтым учыніліператрус багажу, канфіскавалі відэакасету з фільмам Паўла Шарамета "Дзікае паляванне" і дакументы, што тычацца зніклых Захаранкі, Ганчара, Красоўскага і Завадскага. Яўген Лабановіч адмовіўся падпісваць пратаколы затрымання і канфіскацыі дакументаў. Яго пратрымалі ў пастарунку каля трох гадзін, пасля адпусцілі. Старшыні выканкама АГП сябры дапамаглі зрабіць копіі канфіскаваных дакументаў. Ён сеў на начны цягнік і раніцай ужо быў у Маскве.



*Як заявіў журналістам Яўген, улады* "паказалі, што не маюць аніякага інтарэсу да таго, каб гэтыя гучныя справы былі раскрыты. Яны супраць таго, каб гэтыя падзеі мелі гучны рэзананс у свеце".

*Кіраўніцтва АГП у сувязі з затрыманнем Яўгена Лабановіча заявіла* "рашучы пратэст і разглядае падобныя дзеянні як чарговы прыступ мазаічнай псіхапатыі беларускіх уладаў".

## Малады Фронт "аддзячыў" БТ

***Як паведаміла прэс-служба Маладога Фронту, яго сябры аплацілі Беларускаму тэлебачанню паслугі па рэкламе сваёй арганізацыі.***




У перадачы "Рэзананс" і ў дакументальным фільме з серыі "Тайныя спружыны палітыкі" сцвярджалася, што "Маладу Фронт пры дапамозе амерыканскіх службаў, Шарэцкага і Пазьняка праводзіць падрыўныя аперацыі з мэтай звергнуць уладу Аляксандра Лукашэнкі".

— *Мы вырашылі заплаціць БТ за рэкламу, паколькі гэтыя мэты адпавядаюць задачам нашай арганізацыі: мы сапраўды збіраемся масава весці моладзь на прэзідэнцкія выбары сёлета і перамагчы гэты рэжым*, — заявіў лідэр МФ Павел Севярынец.

6 сакавіка маладафронтаўцы наведалі будынак тэлебачання і пакінулі на прахадной "ведамасць" аб пералічэнні на рахунак праграмы "Рэзананс" 288 беларускіх рублёў.

Павел Севярынец запэўніў, што Маладу Фронт будзе і надалей спраўна аплачваць "рэкламныя паслугі" Беларускага тэлебачання.

## АД СЕРАДЫ ДА СЕРАДЫ

### ЧАС

**У апошні тыдзень сакавіка Беларусь пераходзіць на «летні» час. У сувязі з гэтым 25 сакавіка ў 2.00 ночы стрэлкі гадзіннікаў пераводзяцца на гадзіну наперад.**

### СТАТЫСТЫКА

**Па апошніх даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, колькасць насельніцтва Беларусі зменшылася за 2 000 год на 29,3 тысячы і склала 9 990,2 тысячы чалавек.**

**Наогул, за апошнія 6 гадоў беларусаў паменела больш чым на 300 тысяч. Прычым асноўнымі прычынамі смяротнасці ў мінулым годзе былі хваробы сістэмы крывазвароту і новаўтварэнні.**

* * *

**Зараз у Беларусі расце алкагалізацыя насельніцтва на уліку па злоўжыванні алкаголем стаяць каля 180 тысяч чалавек. Паводле слоў галоўнага нарколага Міністэрства аховы здароўя Уладзіміра Максімчука, павялічваецца колькасць жанчын і непаўналетніх, якія пакутуюць ад алкаголю.**

### ЮБІЛЕЙ

**12 сакавіка сваё 15-годдзе адзначыў клуб «Паходня» – першая ў Гродне незалежная арганізацыя, створаная ў 80-х гадах вядомым гісторыкам Міхасём Ткачовым і маладымі навукоўцамі Інстытута біяхіміі Акадэміі навук. Напрыканцы 80-х у складзе «Паходні» аб'ядналіся больш за 200 сябраў, якія вывучалі гістарычныя падзеі, абаранялі ад разбурэння помнікі архітэктуры, прапагандавалі беларускую мову, літаратуру, музыку. Дзякуючы іх намаганням, у Гродне быў уратаваны ад разбурэння будынак гістарычнага архіва, што знаходзіцца на плошчы Тызенгаўза.**

### КОНКУРС

**БНФ «Адраджэньне» сумесна з іншымі грамадскімі арганізацыямі ладзіць конкурс дзіцячага малюнка «Мая краіна – мая свабода», які прысвячаецца Дню абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Да ўдзелу запрашаюцца вучні школаў.**

### ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

**У мінскім клубе «Мэдзісан» 20 сакавіка адбудзецца шоу-прэзентацыя матацыкла «УРАЛ-ВОЎК». Арганізатары акцыі — матаклуб «Начныя ваўкі» і кампанія «Кола». Плануецца паказ фрагментаў з фільмаў пра байк-шоу, экстрэмальны нумар з ужываннем сярэдневяковай зброі і шмат што іншае. Будуць разыграны прызы.**

МОЙ ТЫДЗЕНЬ

**Свободный профсоюз Беларусский проводит кампанию по подготовке наблюдателей и членов избирательных комиссий на предстоящие президентские выборы.**
**Контактный телефон: (017) 284-31-82.**

## ЗА ПЛЕЧАМИ – ПЕРВЫЙ ГОД РАБОТЫ

**11 марта прошла первая отчетно-выборная конференция Новополоцко-Полоцкой региональной организации Свободного профсоюза Беларусского. 20 делегатов всех девяти первичек местной “регионалки” подвели итоги первого года работы организации, выбрали руководство и обсудили планы на ближайшее будущее.**

«Главное, чего удалось достигнуть за этот год, — сказал в отчетном докладе переизбранный на новый срок председатель региональной организации СПБ Владимир АНТОНОВИЧ, – укрепить позиции Свободного профсоюза в нашем регионе. За это время более чем в 2,5 раза выросло количество членов нашей организации: на сегодняшний день в ее рядах насчитывается 225 человек».

За год региональная организация СПБ провела серию различных тренингов и семинаров. Постоянно велась и работа на предприятиях и в учреждениях, где существуют первичные организации профсоюза.

На сегодняшний день шесть входящих в региональную организацию первичек (ПО «Нафтан», ПО «Стекловолокно», «Проммашремонт», Новополоцкой ТЭЦ и двух средних школ – 4-й и 7-й) зарегистрированы в местных органах власти. А вот регистрации двух организаций Полоцкого государственного университета – сотрудников и студентов – препятствует руководство вуза: до сих пор ректорат ПГУ отказывает новым первичным организациям СПБ в предоставлении юридического адреса.

**Соб. инф.**

# Мы – мирные люди

**В начале марта нынешнего года активисты Независимого профсоюза работников новополоцкой ТЭЦ обратились к своим коллегам из отраслевого профсоюза с предложением «выкурить трубку мира» и начать совместную деятельность по защите прав и интересов работников. *«В то время, когда администрация игнорирует выполнение колдоговора, пытается сжить со свету Независимый профсоюз, вы, дорогие коллеги, руководители отраслевого профсоюза, потираете руки. А ведь мы с вами не антагонисты, а союзники. Да, в нашей деятельности существует элемент соперничества, но пора понять, что цели у нас одни, и что все мы находимся в одной лодке. И если удастся ликвидировать один профсоюз, то где гарантия, что в скором времени такая же участь не постигнет и другой?»* — так заканчивается «Открытое письмо» от Независимого профсоюза — традиционному.**

**А то, что молодое демократическое профсоюзное движение ТЭЦ вот уже второй год сдает серьезный экзамен на зрелость, очевидно всему трудовому коллективу (а это — 1042 работающих).**

### С ЧЕГО ВСЕ НАЧАЛОСЬ?

В марте минувшего года в Совет Свободного и Независимого профсоюзов (а на ТЭЦ возникли и действуют два новых профсоюза) поступило уведомление директора ТЭЦ о том, что в связи со вступлением в силу нового Трудового кодекса необходимо внести определенные изменения в коллективный договор. «В случае вашего несогласия с изменениями коллективный договор будет расторгнут» — зачем-то заявил руководитель.

То ли март сыграл с директором злую шутку, то ли его советники что-то напутали, только пришлось профсоюзным активистам объяснять своему нанимателю, что если следовать законодательству, то вопросы изменения колдоговора решаются не в приказном порядке, а по взаимному согласию сторон. Для этого необходимо создать комиссию из представителей этих самых сторон (нанимателя и профсоюзов). И они должны по каждому пункту прийти к взаимному согласию. Об этом директору сообщил председатель Свободного профсоюза работников ТЭЦ Вячеслав Авлохашвили.

Директор с доводами профсоюза согласился. Это следовало из его нового уведомления, направленного в профсоюз спустя месяц. Более того, директорское уведомление содержало подробный список конкретных изменений в колдоговоре.

В общем, шла рутинная работа по согласованию. Ничто не предвещало бури.

И вдруг, именно в тот день, когда в распоряжение директора был направлен список членов профсоюзов, включенных в состав комиссии для ведения переговоров, появился приказ администрации о немедленном введении в силу тех самых изменений, о которых так и не успели договориться.

Можно только гадать, почему директор пошел на столь явное нарушение трудового законодательства. Новые профсоюзы надеялись, что сумеют объяснить директору неправомочность такого поворота событий. Оказалось, зря.

### КАК ВЫКРУЧИВАЛИ РУКИ?

Рассказывает председатель Совета Свободного профсоюза работников ТЭЦ Вадим ДУХОМЕНКО:

— *«Ломать» профсоюз начали с его лидера – старшего машиниста турбинного цеха Славы Авлохашвили. Работник с безукоризненной деловой репутацией, он в 2000 году выиграл в конкурсе профмастерства. Одновременно на него обрушилась лавина упреков: за формальное отношение к работе, за незнание, за неквалифицированную работу... В течение полугода каждый месяц по этим надуманным предлогам Славу депремировали: иногда на 25%, иногда – на 50%, а бывало, лишали премии и на все 100%. В октябре Слава не выдержал: уволился по собственному желанию. Где были мы, его сподвижники? Обращались за помощью к юристам, ходили к администрации ТЭЦ, пытались использовать все законные средства... Тогда мы были совсем зеленые.*

*В октябре, после того как Слава оставил наш коллектив, началась массированная атака на рядовых членов профсоюза. Их по одному вызывали на ковер к директору и, как ни прискорбно признавать, при непосредственном участии председателя отраслевого профсоюза проводили обработку: пенсионеров шантажировали возможностью незаключения договора на новый срок, нуждающихся работников – вероятностью отказа в беспроцентной ссуде и т.д. Не поверите, но дошло даже до того, что членов нашего профсоюза без их ведома «завернули» в ряды отраслевого. Их взносы стали перечислять туда. Когда я стал искать основания для такого самоуправства – концы с концами не сходились.*

*Все эти факты у меня зафиксированы. В конце прошлого года из-за такой «отеческой заботы» наши ряды покинули 27 человек.*

*Конечно, мы стали защищаться.*

*10 января направили соответствующие бумаги в прокуратуру, инспекцию по труду, горисполком, обратились в прессу, стали издавать свою газету.*

*С директором и председателем профкома договорились, что «грязными» методами они больше пользоваться не станут. Надеюсь, они сдержат слово.*

«Рабочы» держит ситуацию под контролем.

**Ирина ДУБОВИК.**

# Чудеса по талонам!

Даже старожилы не припомнят, когда на могилевском производственном объединении «Химволокно» появилась талонная система питания. Талоны – своего рода местные деньги, которыми работники могут расплачиваться за обеды в заводской столовке или за продукты в буфетах. Финансируется эта услуга из прибыли предприятия. Регламентирует такой порядок соответствующая статья коллективного договора. Она повторяется из года в год.

Понятно, что не каждый работник может и хочет ежедневно обедать на предприятии. Зачастую рабочие смены не совпадают с графиком работы столовой. Бывает, что люди болеют или у них просто нет аппетита... Чтобы талоны не пропадали (а действительны они только в течение текущего месяца), предусмотрена возможность перевести талоны в продукты питания. На каждом структурном подразделении работают для этой цели магазин и буфеты.

Заведенный десятилетиями порядок вещей решила нарушить администрация завода искусственного волокна имени Куйбышева (ЗИВ – одно из структурных подразделений могилевского республиканского унитарного производственного предприятия «Химволокно»). Решено было «усовершенствовать» талонную систему следующим образом: поступающие в заводской буфет, столовую или магазин свежие мясные, колбасные и другие изделия велено продавать только за «живые» деньги, ну а если товар не распродан в течение нескольких дней (до особого распоряжения) – покупатель половину стоимости оплачивает в «зайчиках», половину – в талонах, поскольку стоимость его установлена в размере 500 рублей. Если же срок реализации продуктов истек, то их положено продавать только за талоны. Более того, питание в самих столовых также организовали наполовину за деньги. Получается, хочешь поесть – на половину суммы давай талон, за другую половину – плати наличкой. Представьте, как чувствуют себя работники, которым в очередной раз задержали зарплату, видя, что завтра кипа их талонов превратится в обыкновенную бумагу? Как тут не оценить по достоинству «изобретательность» собственной администрации и не помянуть ее «добрым» словом.

Первыми выступили против самоуправства местной администрации активисты Свободного профсоюза.

20 января 2001 года на имя генерального директора МРУПП «Химволокно» К.В.Гисака была подана коллективная жалоба, под которой подписалось свыше 1000 работников завода. Они просили руководителя объединения снять возникшую проблему с талонной системой, вернув все на круги своя.

По заводу прокатилась волна собраний трудового коллектива. Звучавшие на них аргументы заведующей столовой, начальника торгового отдела и ... председателя завкома, что такая форма оплаты – спасение для рабочих, поскольку именно их «живые» деньги позволяют закупать так необходимые рабочему продукты питания, возымели обратный эффект. Потому как на вопросы работников: «Почему же такое благо облагается наценкой в 35–40%?», «Почему буфетчицы принимают неиспользованные талоны с просроченным сроком за 50% стоимости?» никто из представителей администрации, общепита и профкома не ответил.

4 марта председатель Свободного профсоюза работников ЗИВ Владимир Тузов обратился в прокуратуру Октябрьского района Могилева с заявлением, в котором требует возбудить производство об административном правонарушении в отношении генерального директора МРУПП «Химволокно» К.В.Гисака по статье 167-7 Кодекса об административных правонарушениях. Дело в том, что генеральный директор так и не рассмотрел коллективную жалобу тысячи своих сотрудников, поданную ему еще 20 января 2001 года. До сих пор не приняты и оперативные меры по нормализации ситуации.

Остается надеяться, что прокуратура будет вести себя в соответствии с законодательством: ответит в срок как положено – до 4 апреля.

«Рабочы» следит за развитием событий.

**Ирина ДУБОВИК.**

## ПРОГРАММА ТВ — ПОНЕДЕЛЬНИК, 19 МАРТА

**БТ**
6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.35 Новости.
8.00 Резонанс.
9.15 Телебарометр. Прогноз погоды.
9.30 Здоровье. Тележурнал.
10.00, 21.50 «Неукротимая Хильда». Сериал.
11.15, 15.00 «Все мои дети». Сериал.
12.05 «Новые приключения гномов». Мультсериал (Испания).
13.10 Худ.фильм по одноименной пьесе А.Островского «Бешеные деньги».
14.35 Уроки Н.Новожиловой.
15.10 Фильм - детям. Сказочные приключения в худ.фильме «Путешествие по человеческому телу»(США).
16.40 Теленавигатор.
18.25 Политические диалоги.
18.55 Зона Икс.
19.10 Миу-Миу и Т.Лермитт в комедии «Фиктивный брак»(Франция).
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.30 Права человека: взгляд в мир.
22.40 Стадион.
23.05 Планета «АРТ».
23.50 «СТВ-24 часа».

**ОРТ**
15.55 «Воздушные замки». Сериал.
17.00 Новости.
17.25 «Урановый город». Спецрепортаж.
17.45 Жди меня.
18.40 «Кто хочет стать миллионером?».
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Сериал «X-files».
22.45 Взгляд.
23.30 Новости.
23.45 Сериал «Человек ниоткуда».

**РТР**
07.00, 08.00 Вести.
07.30 Москва - Минск.
07.45 Православный календарь.
07.50 Местное время. «Дежурная часть».
08.15 Боевик «Миньон».
10.00 Вести.
10.30 «Санта-Барбара». Сериал.
16.00 Вести.
16.30 Сериал «Вечный зов».
18.00 Сериал «Шальные деньги».
19.00 Вести.
19.30 Местное время. Вести - Москва.
19.50 Авторская программа Елены Масюк «Страна безмолвия». Часть 2-я.
20.30 «Аншлаг» и Ко.
21.30 Михаил Жванецкий. «Простые вещи».
22.00 Вести.
22.30 Местное время.
22.40 Подробности.
22.50 Дежурная часть.
23.00 Остросюжетный фильм «Случай в квадрате 36-80».
00.25 Спорт за неделю.
01.20 «Очень большой теннис».
01.45 Прогноз погоды.

**НТВ**
05.00 Сегодня утром.
05.15, 07.15 Спорт, погода.
05.20, 06.20 Криминал.
05.35, 07.40 Карданный вал.
05.50, 07.20 Впрок.
06.35 В печать.
06.50 Тушите свет.
07.50 Час быка.
07.55 Сериал «Улицы разбитых фонарей».
09.00 Сегодня.
09.20 Сериал «Любовь и тайны Сансет Бич».
11.00 Сегодня.
11.30 Вчера в «Итогах».
12.45 Куклы.
13.00 Сегодня.
13.30 «Итого».
14.00 Старый телевизор.
15.00 Сегодня.
15.30 Впрок.
16.10 Футбольный клуб.
17.05 «О, счастливчик!».
18.00 Сегодня.
18.25 Герой дня.
18.45 Криминал.
19.05 Боевик «Кровавый спорт».
21.00 Сегодня.
21.50 Тушите свет.
22.00 Сериал «Досье детектива Дубровского».
23.20 Сегодня в полночь.
23.50 Час быка.
23.55 «Антропология».

**КУЛЬТУРА**
07.05 Новости культуры.
07.20 После новостей...
07.40 «Сон в летний день». Худ.фильм.
09.25 Произведения Ф.Шопена исполняет Э.Вирсаладзе.
09.55 «Буду спорить! Анатолий Тарасов». «Одинокое катание». Док.фильмы.
10.30 «Рамон-и-Кахаль». Сериал.
11.30 Новости культуры.
11.40 «Воспитание чувств». Худ.фильм. 1-я серия.
12.35 Ч.Айтматов. «Плаха».
12.50 «Исторические концерты». С.Рихтер.
13.30 Новости культуры.
13.45 Мультфильмы.
14.15 «Сферы».
15.00 Новости.
15.10 «Остров-Бабочка». Сериал.
15.35 Телеэнциклопедия.
15.50 «Лиса и заяц». Мультфильм.
16.00 «Вижу цель!» Тележурнал.
16.25 «Рамон-и-Кахаль». Сериал.
17.30 Новости культуры.
17.40 Машины времени. «Прибытие поезда».
18.05 Музыкальные дома. Федор Шаляпин.
18.30 Отечество и судьбы. «Лебедевы».
19.10 Вечерняя сказка.
19.20 «Ох, уж эти детки». Мультсериал.
19.30 Новости культуры.
19.50, 21.30 «Средство Макропулоса». Спектакль.
21.10 После новостей...
22.20 От киноавангарда к видеоарту. «Ландшафты тела».
23.00 Новости культуры.

**ТВ6**
05.00 День за днем.
05.45 Дорожный патруль.
06.00 День за днем.
08.00 Новости.
08.10 Фильм «Приятель покойника».
10.15 «Все в сад!».
10.40 «Про любовь».
11.10 Скандалы недели.
12.10 День за днем.
14.00 Новости.
14.15 Телемагазин в Минске.
14.30 Сериал «Тропиканка».
15.30 Телемагазин в Минске.
15.45 Дневник Чемпионата мира по биатлону среди юниоров.
16.20 Телемагазин в Минске.
17.00 Сериал «Женаты... С детьми...».
17.40 Дорожный патруль.
17.50 Театральный понедельник.
18.25 «Петерс поп-шоу».
19.00 Новости дня.
19.30 «Вы - очевидец».
20.30 Сериал «Пси-фактор. Избранное».
21.35 Дорожный патруль.
21.55 Новости.
22.15 Сериал «Алло, Алло!».
22.55 ДИСК-канал.
23.25 Интернет-программа «Сеть».
00.00 Дорожный патруль.

МАЁ ПРАВА

**_Амаль дзесяць гадоў мінула з таго часу, як Беларусь стала фармальна незалежнай дзяржавай. Столькі ж, між іншым, як і для астатніх краін-нашчадкаў былога СССР. І крыху менш, чым пасля так званай «аксамітнай рэвалюцыі» ва Усходняй Еўропе. Што ж прынеслі нам з вамі, дарагія суайчыннікі, дзве гэтыя «пяцігодкі», кім мы з поўным правам можам цяпер называцца: сучаснай еўрапейскай нацыяй ці 10-мільённай «нацыянальнай меншасцю» ў нейкім віртуальным «саюзе» з былой (альбо будучай?) метраполіяй? Хто намі кіруе? Як мы захоўваем сваю чалавечую годнасць і грамадзянскія правы?_**

# ДЗЯРЖАВА ПРЫГОННАГА ПРАВА

## "ПОСМОТРЕЛ БЫ ТЫ, ТОВАРИЩ, НА СЕБЯ СО СТОРОНЫ..."

Ці памятаеце, як напрыканцы Савецкага Саюза пракамуністычныя публіцысты здзекаваліся з тагачасных бунтаўшчыкоў-прыбалтаў: маўляў, нічога, «незалежныя» вы нашы, крыху памерзнеце без нафты і газу, а потым самі «дамоў» запросіцеся! Толькі мы тады ўжо моцна падумаем, ці патрэбныя вы нам... Але ж вось тыя літоўцы з латышамі, крывёю ўласных сыноў і дачок аплаціўшы сваё права на вольнае жыццё, эстонцы, якіх усё ж Бог ад гэтага літаваў, а таксама грузіны, армяне, азербайджанцы, хоць па карак наваяваліся паміж сабою, дагэтуль штосьці пад новае імперскае ярмо не запрасіліся. Малдаване, якія нядаўна – пэўна, з адчаю ці з бадуна – зноў даверылі вышэйшую ўладу мясцовым камуністам, штосьці там калі-нікалі выказваюцца пра далучэнне да «беларуска-расійскага саюза», але ў сур'ёзнасць гэтай гіблай справы можа паверыць хіба толькі які-небудзь Лукашэнка.

Дык вось, жывуць нашы суседзі на захадзе ды на поўначы самі сабе, па ўласных законах ды разуменнях. Прычым някепска жывуць у параўнанні з намі. Ніхто не кажа, што праблем у іх няма – ды колькі заўгодна! І правы чалавека там таксама, бывае, парушаюцца – напрыклад, у той жа Латвіі на рускамоўных «наязджаюць», – але неяк цяжка сабе ўявіць, каб у адносінах нават не адной з названых балтыйскіх краін, а ўсіх трох разам узятых Дзяржаўны дэпартамент ЗША выказаўся ў сваёй штогадовай Справаздачы аб правах чалавека ў тым жа аб'ёме, як па Беларусі! Вось гэтая Справаздача ад 28 лютага ляжыць зараз на маім пісьмовым стале – 43 старонкі камп'ютэрнай раздрукоўкі. Недасведчаму чалавеку цяжка ўявіць, што гэта значыць, таму ўжо паверце слову журналіста: амаль 8 (восем!) газетных палос такога ж фармату, як вы зараз трымаеце ў руках! І ўсё гэта, за выключэннем кароткай уступнай часткі, толькі факты парушэнняў нашых з вамі правоў за 2000 год, прычым факты, сумненняў у дакладнасці якіх быць не можа, бо гэты ж самы дакумент (толькі, зразумела, на англійскай мове) ляжыць зараз і недзе паблізу ад пісьмовага стала амерыканскага прэзідэнта – а яму ўласны Дзярждэп ніяк не схлусіць!

***"Урад мае дрэнны паслужны спіс у галіне правоў чалавека, які істотна пагоршыўся па многіх паказчыках. Улады жорстка абмяжоўваюць права грамадзян на змяненне ўрада, і Лукашэнка прымаў жорсткія меры па нейтралізацыі палітычных апанентаў. Улады не зрабілі сур'ёзных намаганняў у справе даследвання знікненняў добра вядомых апазіцыйных палітычных дзеячаў, што мелі месца ў мінулым годзе. Органы бяспекі працягвалі збіенні палітычных апанентаў і затрыманых. На працягу года паступалі звесткі аб жорсткіх збіеннях у войску. Умовы ўтрымання ў турмах заставаліся нездавальняючымі. Органы бяспекі праводзілі беспадстаўныя арышты і затрымкі грамадзян, а лік арыштаў, выкліканых відавочна палітычнымі матывамі, узрос, хаця многіх з арыштаваных хутка адпускалі. Працяглыя затрымкі і прамаруджванні ў судовых справах былі звыклымі і таксама мелі месца ў шэрагу палітычна вострых справах. Службы бяспекі парушалі недатыкальнасць асабістага жыцця грамадзян і ажыццяўлялі шчыльны нагляд за дзейнасцю апазіцыйных палітыкаў і прадстаўнікоў іншых слаёў насельніцтва. Працягваліся жорсткія абмежаванні ў дачыненні свабоды слова, сродкаў масавай інфармацыі і мірных сходаў, улады парушалі свабоду асацыяцый. Улады працягвалі ўскладаць абмежаванні на свабоду веравызнання і абмежавалі свабоду перамяшчэння. Прадстаўнікі ўрадавай службы бяспекі шчыльна наглядалі за назіральнікамі па правах чалавека і перашкаджалі іх дзейнасці. Насілле ў сям'і і дыскрымінацыя ў дачыненні да жанчын застаецца істотнай праблемай. Не знікалі праявы ціску супраць рымска-каталіцкай і пратэстанцкай цэркваў, а таксама бытавога антысемітызму. Улады катэгарычна працягвалі абмяжоўваць правы рабочых на свабоду аб'яднанняў, стварэнне арганізацый і заключэнне працоўных дагавароў. Гандаль жанчынамі складае праблему".***

## ЦІ САПРАЎДЫ ЧАЛАВЕК – ВЫШЭЙШАЯ КАШТОЎНАСЦЬ?

Першы раздзел Справаздачы, прысвечаны захаванню недатыкальнасці асобы, пачынаецца з прызнання таго факту, што звестак аб палітычных і пазасудовых забойствах на працягу мінулага года не было. Але былі знікненні людзей, у тым ліку апаратара Грамадскага расійскага тэлебачання Зміцера Завадскага. Было гэта забойствам ці не – дагэтуль невядома. Зрэшты, аб гэтым пісалася і казалася ў нас шмат. Таму не будзем паўтарацца. Адзначым толькі, што ў Справаздачы робіцца выснова аб безвыніковасці дзейнасці беларускіх уладаў па раскрыццю гэтага злачынства. Таксама, як і ў іншых «гучных справах» – Ганчара, Красоўскага, Захаранкі...

Гаворачы пра выпадкі «катавання і іншага бязлітаснага, антыгуманнага або зневажальнага абыходжання або пакарання», эксперты Дзярждэпа заўважаюць:

***"Канстытуцыя 1996 года прадугледжвае недатыкальнасць асобы і, у прыватнасці, забараняе катаванні, а таксама бязлітаснае, антыгуманнае або зневажальнае абыходжанне; аднак і паліцыя, і ахоўнікі турмаў збіваюць затрыманых і вязняў. Супрацоўнікі праваахоўных органаў і турмаў могуць выкарыстоўваць фізічную сілу супраць затрыманых і вязняў толькі ў выпадках, калі апошнія аказваюць фізічнае супраціўленне, адмаўляюцца падпарадкавацца ўказанням турэмнай адміністрацыі, або «зламысна» парушаюць парадак адбывання зняволення. Аднак наглядальнікі за захаваннем правоў чалавека з пэўнасцю паведамляюць, што следчыя прымушаюць да прызнанняў праз збіенні і псіхалагічнае даўленне. Хаця подобныя дзеянні супярэчаць закону, улады рэдка, калі не сказаць, што ніколі, караюць тых, хто чыніць гэткія злоўжыванні. Ахоўнікі ўжываюць сілу супраць затрыманых, каб выцягнуць прызнанні, і ў часе сваёй звычайнай дзейнасці. Паліцыя таксама збівае дэманстрантаў (гл. Раздзелы I.d. і 2.b.)".*** Прачытаўшы гэтую цытату, які-небудзь афіцыйны, пралукашэнкаўскі прапагандыст кшталту Зімоўскага ці Новікава, пэўна, мог бы «на голубом глазу» абурыцца: маўляў, хлусня – няма ў нас ніякай «паліцыі»! І то праўда, хаця як яны вось такі парадокс патлумачаць: паліцыі няма, а дзяржава па ўсіх прыметах – паліцэйская?

І пра катаванні з беларускага тэлеэкрана скажуць, што ўсё гэта лухта. Ды пры тым жа самі пакажуць, як схопленага падчас разгону апазіцыйнага шэсця чалавека, які ўжо не змог бы, нават калі б хацеў, аказваць супраціўленне заламаўшым яму рукі міліцыянтам, ярасна лупцуе дубінкай ці проста нагамі падбегшы ззаду «ахоўнік парадку».

А што робіцца ў беларускіх турмах, куды, дарэчы, можа патрапіць практычна кожны з нас, нават той, хто лічыць сябе цалкам законапаслухмяным грамадзянінам?! Мы можам меркаваць аб гэтым толькі па словах пабываўшых там, хаця тое-сёе прызнаюць нават самі «праваахоўнікі». Напрыклад, што месцы пазбаўлення волі перапоўненыя. І знаходжанне чалавека, няхай нават справядліва асуджанага (а часцяком яшчэ толькі пад следствам, а значыць – юрыдычна невінаватага) ва ўдвая-утрая перанаселенай камеры, разам з хворымі на сухоты, гепатыт, сіфіліс альбо СНІД – хіба ж гэта не сапраўднае катаванне? Справаздача Дзярждэпа апавядае пра тое, якія меры ўздзеяння ўжываюцца за кратамі:

"1 сакавіка дэпутат Вярхоўнага Савета 13 склікання і палітычны вязень Уладзімір Кудзінаў быў пераведзены ў адзіночнае зняволенне ў карцэр на 7 дзён за нібыта дрэнныя паводзіны, што ўключала ў сябе, як сцвярджаецца, адмову ад выканання ранішніх фізічных практыкаванняў і заўчасны ўход з пляцоўкі для курэння (гл. Раздзел I.d.). Кудзінаў да гэтага быў пакараны за ўдзел у шахматным турніры без дазволу ўладаў турмы і за іншыя парушэнні «ўнутранага распарадку». Кудзінаву было таксама без тлумачэнняў адмоўлена ў наведванні яго членамі сям'і і святаром. Паводле наглядальнікаў за правамі чалавека, гэтыя пакаранні былі ўжыты для таго, каб выключыць Кудзінава са спісу тых, хто падпадаў пад амністыю або датэрміновае вызваленне».

Між іншым, па-за межамі амерыканскага дакумента засталіся некаторыя абставіны знаходжання Кудзінава ў карцэры: перад тым, як яго туды адвесці, начальства загадала зняць з арыштанта ніжнюю бялізну і пакінуць яго ў мікраскапічным, наскрозь вільготным пакойчыку ў адной толькі турэмнай робе – і гэта пры тэмпературы не вышэй як 6-7 градусаў цяпла!

Дарэчы, аб вязнях (усіх, не толькі палітычных):

"Статыстыка бягучай колькасці асобаў, што знаходзяцца ў перадсудовым зняволенні, і сярэдняя працягласць перадсудовага зняволення адсутнічае. Выконваючы абавязкі міністра ўнутраных спраў Міхаіл Удовікаў у прамове перад парламентам 9 чэрвеня сказаў, што ў перадсудовым зняволенні або пад дзеяннем пэўнага пакарання знаходзіцца прыблізна 100 000 чалавек... "

Нават афіцыйныя статыстычныя даныя дазваляюць зрабіць выснову, што Беларусь сёння – адзін з сусветных лідэраў па колькасці пазбаўленых волі на душу насельніцтва. Шматлікія крыніцы адводзяць нашай краіне розныя месцы на "п'едэстале ганьбы", але – не ніжэй трэцяга...

## ПАЛЯВАННЕ НА ВЕДЗЬМАЎ І... СВЯТАРОЎ

Вельмі шмат звестак прыводзяць амерыканскія эксперты пра тыя выпадкі, калі парушаліся нашы з вамі грамадзянскія свабоды – слова і друку, мірнага сходу і аб'яднання, веравызнання і г.д. Пакінем убаку эпізоды, палітычны падтэкст якіх відавочны (хаця ашалеўшыя "паляўнічыя на ведзьмаў" самі да чаго хочаш "прышыюць" палітыку, нават калі справа тычыцца поўнай апалітычнасці):

***"Учэрвені чатыры студэнты Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэту былі не дапушчаны да выпускных экзаменаў таму, што яны адмовіліся стаць членамі Беларускага патрыятычнага саюза моладзі – пралукашэнкаўскага студэнцкага аб'яднання, якое мела дачыненне да гвалтоўных нападаў на апазіцыйных актывістаў у мінулым".***

***"7 мая Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт забараніў мітынг на Плошчы Перамогі ў цэнтры Мінска, падрыхтаваны апазіцыйнай Кансерватыўнай хрысціянскай партыяй у гонар 55-ай гадавіны перамогі над нацыстамі. 10 мая мінскія гарадскія выканаўчыя ўлады забаранілі апазіцыйнай Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі правядзенне вершаваных чытанняў у парку Янкі Купалы ў цэнтры Мінска".***

***"10 ліпеня мінскія гарадскія ўлады забаранілі штогадовую каталічную працэсію ў цэнтры Мінска ў гонар Свята Цела Хрыстова. Марш, які рэгулярна прыцягваў да 5000 удзельнікаў, праводзіўся штогод, пачынаючы з 1991 года. Другі зварот арганізатараў таксама быў адхілены. Адмова ў правядзенні маршу разглядаецца многімі праваабаронцамі як частка шырокай кампаніі наступу на неправаслаўныя рэлігійныя групы (гл. Раздзел 2.с.)."***

Дарэчы, з верай у Бога зараз у нас робіцца нешта сатанінскае: галава дзяржавы – заўзяты атэіст, а ўсе прэферэнцыі аддае адзінай канфесіі – праваслаўю. Нібыта ўсе іншыя – патэнцыяльныя ворагі народа! А як быць, напрыклад, мне, праваслаўнаму, хрышчонаму, які, аднак, не часта ходзіць у храм і па той, сярод іншых, прычыне, што хацеў бы быць прыхаджанінам менавіта беларускай, а не нейкай замежнай царквы? У якой Канстытуцыі, у якім законе запісана, што беларусы не павінны мець права на ўласныя стасункі з Госпадам, як іншыя браты-славяне: рускія, украінцы, балгары, сербы – ды й значная частка тых жа палякаў, у рэшце рэшт?! Але...

***"На працягу апошняга часу ўлады неаднаразова адхілялі звароты Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы (БПАЦ) па рэгістрацыю... Мясцовыя суды пакуль што адмаўляюцца разглядаць апеляцыі з боку БПАЦ аб скасаванні рашэння рэжыму Лукашэнкі не рэгістраваць іх цэркваў. З прычыны наяўнасці праблем з рэгістрацыяй, у тым ліку нядольнасці зарэгістраваць семінарыю, БПАЦ не ўстане падрыхтаваць дастатковую колькасць святароў, каб задаволіць растучыя патрэбы сваіх парафіян".***

Ну, а становішча "нетрадыцыйных", па ўрадавай класіфікацыі, рэлігійных канфесій увогуле адчайнае: пад няспынным ціскам з боку ўлады пратэстанты, прыхільнікі разнастайных усходніх культаў адчуваюць сябе ледзь не дзяржаўнымі злачынцамі. Ды й "традыцыйныя" іудзеі і мусульмане таксама могуць шмат чаго паведаміць аб тым, як нейкія вандалы ганьбяць сінагогі ды мячэці, знішчаюць помнікі на могілках, а прафесійныя абаронцы закона глядзяць на гэта праз шырока заплюшчаныя вочы...

## ДАЛОЎ ПРЫГОННАЕ ЯРМО!

Я таму гэтак падрабязна цытую тое, што напісалі амерыканцы, што хачу паспрабаваць адказаць на пастаўленае самому сабе пытанне: дык хто мы такія, беларусы, свабодныя людзі ў свабоднай краіне альбо наадварот – безгалосыя, прыніжаныя халопы? Бо калі можаш убачыць сваё адлюстраванне як быццам пад іншым вуглом, то і лягчэй даць сабе рады. Усёй душой хацелася б спадзявацца, што мой народ усё ж не пацерпіць прыгоннае ярмо на сваім карку. Бо мы ж спрадвеку вольналюбівыя людзі, мы – еўрапейцы! Хаця дагэтуль многія з нас гэтага не ўзгадалі...

***"Канстытуцыя забараняе прымусовую працу, акрамя выпадкаў, калі работа ці паслуга, якую трэба выканаць, пацверджана судовым рашэннем або адпавядае закону аб надзвычайным стане ці ваенным становішчы; аднак паступаюць звесткі аб прымусе да працы. Напрыклад, 12 ліпеня гарадскія ўлады Івацэвічаў, што ў Брэсцкай вобласці, разаслалі лісты мясцовым вытворчым прадпрыемствам і дзяржаўным установам з загадам павялічыць «добраахвотны» ўдзел сваіх работнікаў у нарыхтоўцы фуражу на 20 працэнтаў. Работнікам, якія адмовіліся «добраахвотна» ўзяць удзел у нарыхтоўцы, было загадана заплаціць штраф у памеры $5 (5000 рублеў), ці 15 працэнтаў ад сярэднемесячнай зарплаты. Такім чынам, гэты загад прымусіў мясцовых жыхароў працаваць на нарыхтоўцы фуражу. Канстытуцыйнае палажэнне, якое забараняе прымусовую або змушаную працу, датычыць усіх грамадзянаў, хаця яго прымяненне ў дачыненні да дзяцей не канкрэтызуецца".***

**Павел МІКАЛАЕВІЧ.**

## ПРОГРАММА ТВ — ВТОРНИК, 20 МАРТА

**БТ**
6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.40 Новости.
8.05, 22.05 «Неукротимая Хильда». Сериал.
9.15, 15.35 «Таинственный мир Алекс Мак». Сериал для детей.
9.45 Стадион.
10.15 Документальный сериал «Исторические расследования». Фильм «Владимир Поремский».
11.15, 17.00 «Все мои дети». Сериал.
12.00 «Одиссея команды Кухто». Телеигра.
12.30 Криминальное досье.
13.15 Худ.фильм. «Бег». 1-я серия.
15.10 «Марсупилами». Мультсериал.
16.05 «5 х 5». Информационно-развлекательная программа для старшеклассников.
18.25 «Москва - Минск».
18.45 Зона Икс.
19.00 Х/ф. «Полевые цветы»(США).
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.30 Событие.
21.45 Спорт-курьер.
22.55 Ток-шоу «Будни». Новые технологии.
23.55 «СТВ-24 часа».

**ОРТ**
08.00 Новости.
08.15 «Воздушные замки». Сериал.
09.55 «Кто хочет стать миллионером?».
11.00, 14.00 Новости.
14.20 Царь горы.
14.45 До шестнадцати и старше.
15.20 Мультсериал «Покемон».
15.45 «Ералаш».
15.55 «Воздушные замки». Сериал.
17.00 Новости.
17.25 «Победим?..» К Чемпионату мира по фигурному катанию.
17.55 Как это было. Советские «МиГи» в небе Кореи. 1950-1953 годы.
18.40 «Убойная сила-2: След бумеранга».
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Комедия «Опасно для жизни».
22.45 «Цивилизация». Николай Тимофеев-Ресовский.
23.20 Новости.
23.35 Сериал «Полтергейст-3».

**РТР**
08.00 Вести.
08.15 Моя семья. «Измена в понимании мужчин и женщин».
09.25 «Откройте, милиция!» Док.сериал.
10.00 Вести.
10.30 «Санта-Барбара». Сериал.
16.00 Вести.
16.30 «Том и Джерри». Мультсериал.
16.45 Сериал «Вечный зов».
18.00 Сериал «Шальные деньги».
19.00 Вести.
19.30 Местное время. Вести - Москва.
19.50 Фигурное катание. Чемпионат мира. Парное катание. Короткая программа.
21.30 «Россия-начало». Премьера док.сериала.
22.00 Вести.
22.30 Местное время.
22.40 Подробности.
22.50 Дежурная часть.
23.00 Мужчина и женщина. Елена Андреева.
23.45 Худ.фильм «Искушение Изабель».
01.30 Прогноз погоды.

**НТВ**
05.00 Сегодня утром.
05.15, 07.15 Спорт, погода.
05.20, 06.20 Криминал.
05.35, 07.40 Карданный вал.
05.50, 07.20 Впрок.
06.35 В печать.
06.50 Тушите свет.
07.50 Час быка.
07.55 Сериал «Улицы разбитых фонарей».
09.00 Сегодня.
09.20 Сериал «Любовь и тайны Сансет Бич».
11.00 Сегодня.
11.25 Фильм «Хомут для маркиза».
13.00 Сегодня.
13.30 Криминал. «Чистосердечное признание».
14.00 Старый телевизор.
15.00 Сегодня.
15.30 Впрок.
16.10 Сериал «Страсть».
17.05 «О, счастливчик!».
18.00 Сегодня.
18.30 Герой дня.
18.45 Криминал.
19.05 Сериал «Идеальная пара».
20.15 «Криминальная Россия». «Похищение Страдивари».
21.00 Сегодня.
21.50 Тушите свет.
22.00 Сериал «Досье детектива Дубровского».
23.15 Сегодня в полночь.
23.45 Час быка.
23.50 «Антропология».
00.40 Сериал «За гранью возможного».

**КУЛЬТУРА**
07.05 Новости культуры.
07.20 После новостей...
07.40 «Красное и черное». Худ.фильм. 1-я серия.
08.50 Играет «Терем-квартет».
09.30 Русь-деревня. Док.фильмы.
10.25 «Рамон-и-Кахаль». Сериал.
11.30 Новости культуры.
11.40 «Воспитание чувств». Худ.фильм. 2-я серия.
12.35 Поклонникам Терпсихоры.
12.55 «Сколько верст до рейхстага?» Док.фильм.
13.30 Новости культуры.
13.45 «Возвращение с Олимпа». Мультфильм.
14.05 Вместе с Фафалей.
14.15 Они дружили с Козловским.
15.00 Новости.
15.10 «Остров-Бабочка». Сериал.
15.35 Телеэнциклопедия.
15.50 «Королевский бутерброд». Мультфильм.
16.00 Дело житейское.
16.25 «Рамон-и-Кахаль». Сериал.
17.30 Новости культуры.
17.40 Ноу-хау.
17.55 «Российский курьер». Город Каргополь.
18.20 «Цитаты из жизни». Космонавт Г. Гречко.
19.00 Вечерняя сказка.
19.10 «Ох, уж эти детки». Мультсериал.
19.30 Новости культуры.
19.50 Русь-деревня. Док.фильмы.
20.45 После новостей...
21.05 «Третий звонок».
21.35 «Красное и черное». Худ.фильм. 1-я серия.
22.45 Мультфильм для взрослых.
23.00 Новости культуры.

**ТВ6**
05.00 День за днем.
05.45 Дорожный патруль.
06.00 День за днем.
08.00 Новости.
08.10 Боевик «Операция отряда «Дельта».
10.05 Сериал «Пси-фактор. Избранное».
11.00 Катастрофы недели.
12.00 День за днем.
13.30 «Петерс поп-шоу».
14.00 Новости.
14.15 Телемагазин в Минске.
14.30 Сериал «Тропиканка».
15.30 Телемагазин в Минске.
15.45 Дневник Чемпионата мира по биатлону среди юниоров.
16.20 Телемагазин в Минске.
17.00 Сериал «Женаты... С детьми...».
17.40 Дорожный патруль.
17.50 Юмористическая программа «БИС».
18.25 «Петерс поп-шоу».
19.00 Новости дня.
19.30 «СВ-шоу». Ефим Шифрин.
20.30 Сериал «Пси-фактор. Избранное».
21.35, 1.10 Дорожный патруль.
21.55 Новости.
22.15 Сериал «Алло, Алло!».
22.55 ДИСК-канал.
23.30 Фильм «Полет голубки».

## КНГ АБСЕ АДБІВАЕ ЧАРГОВУЮ АТАКУ БЕЛАРУСКАГА ТЭЛЕБАЧАННЯ

*Кансультацыйна-назіральная група АБСЕ ў Мінску пракаментавала чарговыя заявы Беларускага тэлебачання пра нібыта антыканстытуцыйную дзейнасць КНГ у справе падрыхтоўкі назіральнікаў на выбарах.*

Нагадаем, што памочнік Аляксандра Лукашэнкі Сяргей Посахаў заявіў у «Панараме», што запрашэнне кіраўніка КНГ АБСЕ ў Беларусі Ганса-Георга Віка, дасланае кіраўнікам розных партый, “расцэньваецца намі як умяшанне ва ўнутраныя справы нашае дзяржавы, імкненне ажыццяўляць антыканстытуцыйную, супрацьзаконную дзейнасць». А яшчэ «Панарама» паведаміла, што, нягледзячы на выдаткаваныя з бюджэту АБСЕ значныя грошы ды вялікія намаганні самой КНГ, «самастойна правесці семінары па падрыхтоўцы наглядальнікаў на Беларусі АБСЕ не змагла. Першая спроба сабраць удзельнікаў была зроблена 9 сакавіка — на семінар прыйшло 10 чалавек. Другая спроба была 10 сакавіка — на семінар прыйшло 7 чалавек».

Гэтыя паведамленні абверг палітычны дарадца групы АБСЕ ў Беларусі Эндру Карпентэр. У гутарцы з карэспандэнтам радыё “Свабода” ён адзначыў:

— *Мы правялі тры семінары паміж 9 і 12 сакавіка на тэму назірання за выбарамі. Былі запрошаны чыноўнікі выбарчых камісій, прадстаўнікі няўрадавых арганізацый, студэнцкіх арганізацый і палітычных партый, якія будуць дзейнічаць як упаўнаважаныя або вузкапартыйныя назіральнікі.*

У семінарах на працягу трох дзён удзельнічала больш як сотня чалавек. Пасяджэнні былі прысвечаны таму, што такое назіранне за выбарамі, што такое правы ды абавязкі назіральнікаў у часе выбараў. Мы разглядалі выбарчыя працэдуры і тлумачылі, як падаваць заявы ды скаргі ў адпаведнасці з тымі законамі, якія дзейнічаюць у Беларусі”.

На просьбу карэспандэнта “Свабоды” пракаментаваць заявы Сяргея Посахава і Беларускага тэлебачання пра антыканстытуцыйнасць семінараў яшчэ да прызначэння даты прэзідэнцкіх выбараў Эндру Карпентэр адказаў:

— *Прынцыпы назірання універсальныя. Яны не прымяняюцца да нейкіх асобных выбараў. Час правядзення гэтых семінараў быў абраны з прычыны паўторных выбараў, якія мусяць прайсці 18 сакавіка ў 13 акругах Беларусі.*

## 25 САКАВІКА Ў НЬЮ-ЙОРКУ БУДЗЕ ЎРАЧЫСТА АДЗНАЧАНЫ ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ

### ТАКОЕ РАШЭННЕ ПРЫНЯЛІ МЭР ГОРАДА І ГУБЕРНАТАР ШТАТА.

Дзень Незалежнасці Беларусі будзе сёлета адзначацца ў якасці аднаго са святаў штата Нью-Йорк. Такое рашэнне прыняў губернатар штата Джордж Патакі. З гэтай нагоды ён дашле прывітальны ліст беларусам Нью-Йорка.

Будзе адзначана і важная роля беларусаў у жыцці горада Нью-Йорка. Яго мэр Рудольфа Джуліані таксама намераны абвясціць 25 сакавіка Днём Беларусі.

Першыя светкаванні Дня Незалежнасці пачнуцца ў наступную нядзелю, 18 сакавіка, святочнай імпрэзай у Манхэтэне — цэнтральнай частцы горада. Сярод запрошаных на свята – прадстаўнікі Дзярждэпартаменту ЗША і Камісіі па правах чалавека ААН. Госцем урачыстай цырымоніі будзе і першы амбасадар ЗША ў Беларусі спадар Суорц.

Непасрэдна 25 сакавіка, адзначаючы Дзень абвяшчэння БНР, беларусы Нью-Йорка правядуць дзве дэманстрацыі ў Вашынгтоне: каля амбасадаў Беларусі і Расіі.




## КАНАДА – ЗНАЧЫЦЬ “ПАСЕЛІШЧА”

***Эміграцкі хлеб заўжды цяжкі, і няма нічога добрага ў тым, што беларусы зараз з-за эканамічных ці палітычных меркаванняў вымушаны пакідаць радзіму. Але гэта таксама частка нашага жыцця і размовы пра тое, якая краіна лепшая для жыцця, усё часцей чуюцца ў асяродку нашых землякоў — асабліва маладых. Сярод дзяржаў, якія выклікаюць асаблівую цікавасць — Канада.***

13 жніўня 1535 года знакаміты французскі падарожнік Жак Карцье падплыў да ракі Св. Лаўрэнція. Два індзейцы-іракезы – удзельнікі першай экспедыцыі, якія цяпер вярталіся дадому з Парыжа, – пазналі родныя мясціны і закрычалі на іракеска-французскай трасянцы: chemin de kanata – дарога ў паселішча. З гэтай фразы Карцье пачуў толькі апошняе слова – kanata, якое потым з цягам часу ператварылася ў назву краіны.

Новыя беларускія эмігранты ў Канадзе маюць сваю адметнасць. У асноўным гэта кваліфікаваныя прафесіяналы. Ці прызнаюцца ў Канадзе беларускія дыпломы аб вышэйшай адукацыі?

Суразмоўцамі карэспандэнтаў радыё “Свабода” былі медыкі Пятро Мурзёнак і Руслан Качаткоў. Яны адказвалі:

— *Нашы дакументы прызнаюцца. Але каб доктару працаваць па спецыяльнасці, неабходна атрымаць дазвол. Каб яго атрымаць, трэба здаць два экзамены па англійскай мове, потым экзамены па медыцыне. Праблема ў тым, што ў Канадзе не прызнаецца наша інтэрнатура, таму неабходна прайсці інтэрнатуру тут. Але папасці ў інтэрнатуру цяжка — вялікая канкурэнцыя. Тут патрэбна здаць яшчэ два дадатковыя экзамены – тэарэтычны і практычны. Асноўная частка іншаземных дактароў хоча працаваць практычна, але не ўсе здольныя пераадолець гэтыя перашкоды і некаторыя ад’язджаюць працаваць у Амерыку. Ёсць альтэрнатыўны варыянт: працаваць не практычным доктарам, а навукоўцам, але тады заробкі значна меншыя. Аднак для гэтага не патрэбны дазвол, дастаткова толькі асабістай дамоўленасці паміж навукоўцам і загадчыкам лабараторыі, які бярэ яго на працу.*

Наколькі складана наогул распачынаць жыццё ў Канадзе новаму эмігранту?

Для іх ёсць амаль бясплатныя курсы англійскай мовы. Памерці з галаду ў Канадзе цяжка. Тыя, хто не можа знайсці працу, атрымліваюць фінансавую дапамогу. Тыя, хто працуе на працы з невысокім узроўнем аплаты, плацяць зніжаныя падаткі. Жыллё ў Таронта дарагое. Але прыток эмігрантаў (не толькі беларускіх) у Таронта вельмі вялікі, бо тут лягчэй знайсці працу.

Руслан Качаткоў — намеснік старшыні Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады. Характэрна, што тамтэйшыя беларусы старанна адзначаюць беларускія святы, робяць імпрэзы, прэзентацыі. Часта менавіта тут выхадцы з Беларусі пачынаюць адчуваць сябе свядомымі беларусамі. Дарэчы, яшчэ адзін з удзельнікаў перадачы, камп’ютэршчык Юрый Шамецька, які стварыў сайт “канадскіх беларусаў” у Інтэрнэце, зазначыў: у Беларусі людзі часцяком не адчуваюць сябе беларусамі. Але калі вы ад’едзеце з Беларусі — адразу зразумееце, што вы толькі беларус, а не рускі, не паляк, не ўкраінец...

У Беларусі часта можна пачуць: “Каму наша прадукцыя патрэбная на тым Захадзе!” А вось яшчэ адна удзельніца праграмы, Ганна Астроўка, якая працуе ў супермаркеце загадчыцай аддзела жаночага адзення, адзначыла: беларускія жаночыя паліто, а таксама абутак ахвотна бяруць канадскія пакупнікі. Гэта тавары высокай якасці, адразу відаць, што людзі прыклалі да іх рукі. Так што, на самрэч, не дурнейшыя мы за іншых.

Тым не менш, варта перасцерагчы патэнцыйных “канадскіх беларусаў” ад завышаных чаканняў. Былы мінскі інжынер-будаўнік Валерый на пытанне, ці варта абіраць для жыцця “Краіну кляновага ліста” адказаў:

– *Не. Канада мае толькі 30 млн. жыхароў. Штогод прыязджаюць людзі па ўрадавай эміграцыйнай праграме, толькі летась прыехала каля 230 тыс. эмігрантаў, 44 працэнты з іх асела ў Таронта. Эйфарыя ад Канады пройдзе вельмі хутка. Пасля таго, як чалавек акунецца ў рэальнае жыццё, пасля таго, як не здолее знайсці працу, жыллё — хутка ўпадзе ў дэпрэсію.*

Валерый мае рацыю. І усё ж, відаць, нездарма Канада лічыцца дзяржавай прывабнай для эмігрантаў і камфортнай для жыцця. Парадокс: там ахвотна прымаюць замежных спецыялістаў — і ў той самы час не хапае працы, бо краіна не ў стане хутка адаптаваць такі вялікі прыток чужынцаў. Асабліва тых, хто імкнецца жыць у вялікіх гарадах, а не ў паселішчах, падобных на тое, што некалі паказалі Жаку Карцье мясцовыя іракезы.

**Старонка падрыхтавана па матэрыялах радыё “Свабода”.**

## У ПОЛЬШЧЫ СТВОРАНЫ “ЗВЯЗ БЕЛАРУСКІХ ПАЛІТЫЧНЫХ УЦЕКАЧОЎ”

*У Польшчы створаны Звяз беларускіх палітычных уцекачоў. На мінулым тыдні ён выступіў з першай акцыяй — і адразу паспяховай. Пасля звароту Звяза ў Міністэрства замежных спраў Польшчы беластоцкі суд накіраваў справу беларускага прадпрымальніка Андрэя Жукаўца на больш падрабязнае даследаванне.*

Сама ідэя згуртавання палітычных уцекачоў Польшчы існавала ўжо не адзін год. Апошнім штуршком для стварэння такой структуры якраз і стаў арышт Андрэя Жукаўца і пагроза экстрадыцыі бізнесоўца на радзіму. Ведаючы з уласнага вопыту, з якою лёгкасцю беларускія ўлады фабрыкуюць крымінальныя справы на дзеячаў апазыцыі, звязаўцы адным з асноўных праграмных пунктаў сваёй дзейнасьці вызначылі процідзеянне экстрадыцыі апанентаў беларускага рэжыму.

Апроч гэтай праблемы ў беларусаў, якія атрымалі палітычны прытулак у Польшчы, шмат іншых. Напрыклад, атрыманне статусу палітычнага эмігранта, які дае магчымасць легальна працаўладкавацца, бесперашкодна рухацца па Еўропе ды наогул свабодна займацца грамадска-палітычнай дзейнасцю. Але дабіцца гэтага статуса ў Польшчы вельмі складана. Летась яго атрымалі толькі пяцёра беларусаў.

Што да палітычнай дзейнасці, то звязаўцы маюць намер выдаваць свой тыднёвік, які плануецца распаўсюджваць у Беларусі. Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў на радзіме у аргкамітэце арганізацыі лічаць, што выданне штотыднёвіка на сёння – самая важная справа.

## ПРОГРАММА ТВ

## СУББОТА, 24 МАРТА

**БТ**

7.00, 9.00, 15.00, 18.30 Новости.
7.10 Існасць. Духовная программа.
7.40 «В мире вдохновения». Музыкальный фильм.
8.30 Здоровье. Тележурнал.
9.10 «Новые приключения гномов». Мультсериал.
9.40 Юмористический сериал «Кувалда»(США).
10.10 «Все нормально, мама!» Развлекательная программа.
10.35 «Одиссея команды Кухто». Телеигра.
11.05 Мультиклуб.
11.30 «Мамми-бактерия». Док.фильм цикла «Эврика! Я ошибался!».
12.25 Ток-шоу «Будни». Новые технологии.
13.10 Королевская охота.
13.40 Сериал по выходным. «Ключ к полям». 5-я серия.
14.30 Столица. Информационно-аналитическая программа.
15.10 «Конек-горбунок». Мультфильм.
16.05 «Вечер с Любовью Казарновской». Музыкальная программа.
17.00 Детективный сериал «Жюли Леско».
18.55 Футбол. Отборочный матч чемпионата мира. Украина - Беларусь. Трансляция из Киева. В перерыве (19.45) - Из достоверных источников.
21.00 Панорама.
21.50 Спорт-курьер.
22.05 «Тайные пружины политики». Авторская программа Юрия Азаренка.
22.30 Л.Гурченко и О.Басилашвили в трагикомедии Э.Рязанова «Вокзал для двоих» («Мосфильм»). 1-я и 2-я серии.
0.40 Вечерний экспресс.

**ОРТ**

07.00 Новости.
07.15 Программа «100%».
07.40 Мультсеанс.
07.55 Комедия «Альф».
08.25 Играй, гармонь любимая!
09.00 Новости.
09.10 Смак.
09.30 «Смехопанорама».
10.10 Криминальная драма «...и правосудие для всех».
12.15 Здоровье.
13.05 Седьмое чувство.
13.45 История одного шедевра.
14.00 Новости.
14.10 Сериал «Китайский городовой».
15.05 «Все о Микки Маусе».
15.35 Лариса Долина в фильме-концерте «По-новому жить».
17.00 Новости.
17.20 «С легким паром!».
17.55 Футбол. Отборочный матч Чемпионата мира. Сборная России - сборная Словении.
20.00 Время.
20.40 Боевик «Обрученные со смертью».
22.35 «Мы желаем счастья вам». Стас Намин и группа «Цветы».

**РТР**

06.30 Диалоги о рыбалке.
07.00 Комедия «Вечерний лабиринт».
08.10 Золотой ключ.
08.30 «Телепузики».
09.00 Доброе утро, страна!
09.45 «Сто к одному».
10.35 Сам себе режиссер.
11.05 «Каламбур».
11.35 Почта РТР.
12.00 «Комиссар Рекс». Сериал.
13.00 Вести.
13.20 Детектив «Пять минут страха».
15.00 «Пресс-клуб».
15.45 «Международная панорама».
16.30 «Национальный доход».
17.00 Моя семья. «Замуж за деньги».
18.00 Приключенческий фильм «Затерянный мир. Оракул».
19.00 «Вести» в субботу.
19.50 «Городок» - ретро».
20.30 Фигурное катание. Чемпионат мира. Спортивные танцы. Произвольная программа.
22.15 Фильм «Мумия: принц Египта».
00.30 Эротический фильм «Дневники Красной туфельки».

**НТВ**

07.00 Сегодня.
07.15 Сериал «Закон джунглей».
07.45 «О, счастливчик!».
08.30 Без рецепта.
09.00 Сегодня.
09.20 Криминал.
09.50 «Женский взгляд».
10.25 «Полундра».
11.00 Сегодня.
11.25 Профессия - репортер. Кирилл Кикнадзе. «Подводные Гималаи».
11.40 Комедия «Свадьба в Малиновке».
13.35 «В нашу гавань заходили корабли».
14.40 «Свидетель века».
15.00 Сегодня.
15.35 «Интересное кино».
16.15 Дог-шоу «Я и моя собака».
16.55 Сериал «Новые приключения Никиты».
18.00 Сегодня.
18.45 Герой дня без галстука.
19.25 «О, счастливчик!».
20.15 Сериал «Улицы разбитых фонарей».
21.30 «Итого».
22.05 Боевик «Красное солнце».
00.15 Сериал «За гранью возможного».

**КУЛЬТУРА**

09.05 «Аистенок».
09.30 Мой цирк.
10.00 «Цубаки Сандзюро». Худ.фильм.
11.35 Сенсация! Сенсация? Сенсация...
12.00 Архитектурная галерея.
12.15 Странствия музыканта.
12.35 Золотой пьедестал. Эдуард Стрельцов.
13.00 Дворцовые тайны.
13.30 Новости культуры.
13.45 Театральная летопись XX века. Михаил Ульянов.
14.10 «Елизавета». Худ.фильм. 5-я серия.
15.40 Романтика романса. Клавдия Шульженко.
16.10 «Кентервильское привидение». Мультфильм.
16.30 Телетеатр. Классика. Валерий Фокин на ТВ.
17.30 «Сферы».
18.10 Билет в Большой...
18.35 Вечерняя сказка.
18.40 «Ох, уж эти детки». Мультсериал.
19.00 «Быкобой». Док.фильм.
20.15 Дом актера. «Традиционный сбор».
21.00 Новости культуры.
21.20 Личные воспоминания о большой жизни.
21.25 Блеф-клуб.
22.05 «Пан Володыевский». Худ.фильм. 1-я серия.

**ТВ6**

05.40 Фильм «Дорога на Арлингтон».
07.40 Дорожный патруль.
07.50 Ваша музыка. Николай Трубач.
09.25 «Про любовь».
10.00 Театральный понедельник.
10.35 «Пальчики оближешь».
11.10 Без вопросов.
11.35 Феномен доктора Назаралиева.
11.45 Телемагазин в Минске.
12.00 Новости.
12.15 «Фаsон».
12.55 «Мое кино».
14.35 «Наши любимые животные».
15.05 Дневник Чемпионата мира по биатлону среди юниоров.
15.40 «СВ-шоу». Ефим Шифрин.
16.40 Ток-шоу «Я сама».
17.40 Дорожный патруль.
18.00 Скандалы недели.
19.00 Новости дня.
19.15 Боевик «Операция отряда «Дельта- 2. Тревога».
21.25 Триллер «Охота за наследством».
23.10 Дорожный патруль.
23.25 Эротический фильм «Запретные мечты- 2».

## КУРЫЛКА

*Псіхіятр — пацыенту:*

*— Такім чынам, кожную ноч вам сніцца нейкая істота, якая кідаецца на вас, крычыць і б'е па галаве качалкай. Але ж гэта здань знікае пасля таго, як вы прачынаецеся?*

*— У тым і справа, што не, доктар. Раніцай яна звычайна крычыць: «Досыць прыкідвацца, што спіш, лайдак, лепей бы дзяцей адвёў у сад!».*

* * *

*— Мсье, вы жанаты? – пытаецца ў заказчыка кравец.*

*— Так.*

*— Тады магу прапанаваць патайную кішэню для вашага пінжака.*

* * *

*— Тата, а што мела на ўвазе наша настаўніца, калі гаварыла, што яблык ад яблыні недалёка падае?*

*— Што ты зноў натварыў у школе, нягоднік?!*

* * *

*Сяброўская парада: калі ваш сусед слухае магнітафон да дванаццаці ночы, пазваніце яму а другой гадзіне і падзякуйце за тое, што падзяліўся з вамі цудоўнай музыкай.*

* * *

*Муж у ложку, у яго грып.*

*— Дарагая, калі я памру, будзеш хоць крышачку сумаваць па мне?*

*— Вядома, дарагі, ты ж ведаеш, што я плачу з любой нагоды.*



***10 сакавіка ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета пачаўся фестываль "2001 — год Вердзі".***

Як вядома, сёлета спаўняецца 100 гадоў з дня смерці славутага італьянскага кампазітара. На мінскай сцэне будуць паказаны 6 оперных шэдэўраў Джузэпе Вердзі. У фестывалі прымуць удзел вядомыя артысты – барытон Яўген Васілеўскі, бас Уладзімір Пруднікаў, маладая французская спявачка Фрэдэрык Адэд.

***У мінскім Палацы культуры ветэранаў з 12 па 20 сакавіка пройдзе кінапаказ "Жаночы партрэт у інтэр'еры: жанчыны-рэжысёры Францыі і Нямеччыны".***

Арганізатары акцыі – Інстытут Гётэ ў Мінску, амбасада Францыі і асацыяцыя "Кінаклуб". Французскія і нямецкія кінарэжысёры прапануюць гледачам найлепшыя ўзоры кінематографа сваіх краін 1970-90-х гадоў.

***"Аўтапартрэт на фоне Вільні" – так называецца фотавыстава, якая адкрылася ў мінскім Музеі сучаснага мастацтва.***

Яе аўтар – мастак Дзяніс Раманюк. Выстава наладжана пры падтрымцы літоўскай амбасады і прымеркавана да 11-х угодкаў аднаўлення незалежнасці Літоўскай Рэспублікі.

***У гродзенскай галерэі "У майстра" 10 сакавіка адкрылася міжнародная выстава графікі "Mini-print-Гродзя-2001".***

На ёй можна пабачыць працы майстроў з Беларусі, Германіі, Бельгіі, Галандыі, Балгарыі, Славакіі, Літвы, Украіны, Расіі, Ізраіля. Акрамя сучасных еўрапейскіх графікаў, тут упершыню экспануюцца арыгінальныя афорты класікаў жанру – галандца Лу Стрыга і славака Альбіна Бруноўскага. Ад беларускіх майстроў выстаўлены творы Юрыя Якавенкі, Віктара Саўчанкі і Валянціна Шобы.



*Выступае ансамбль "Госціца". Кіраўнік – Л. Сімаковіч.*



# Беларускі календар 20 сакавіка

***Убачыўшы прозвішча "Багдановіч", мы адразу ўспамінаем славутага лірычнага паэта з трагічным лёсам – Максіма Багдановіча. Адама Багдановіча – ягонага бацьку – мы ведаем значна менш. Але і ён пакінуў след у беларускай гісторыі.***

Адам Багдановіч – выдатны этнограф і фалькларыст. Светасузіранне беларуса-селяніна яшчэ ў канцы XIX стагоддзя мала чым адрознівалася ад паганскіх уяўленняў яго далёкіх продкаў. Таямнічы свет пушчаў і балот быў населены лесавікамі, вадзянікамі, чарцянятамі і русалкамі. Адам Багдановіч збіраў, занатоўваў, сістэматызаваў павер'і і паданні пра змрочнага Лесуна і шалёнага Падвея, пра змяінага цара, пра містычных істот, захаваўшых імёны паганскіх боствaў – Купалу, Каляду, Мару...



**Адам БАГДАНОВІЧ**
**20.3.1862 – 16.4.1940**

Сын селяніна, Адам Багдановіч цудоўна ведаў гэты зачараваны свет, абрады і гульні, з дзяцінства чуў старажытныя легенды, пераплеценыя з сярэднявечнымі прыхамацямі, што распавядала малым бабуля Рузаля. Закаханасць у свет беларускага фальклору Адам Багдановіч перадаў і свайму сыну Максіму.

Цяжка паверыць, што ў такога паэта, як Максім Багдановіч, які пісаў у такой вытанчанай форме, перакладаў Гарацыя і Авідзія, Гейне і Пушкіна, няма шляхецкіх каранёў. Бацька Адама Багдановіча, а Максімаў дзед, быў прыгонным селянінам, кухарам. Адам працаваў з дванаццаці гадоў – у чыгуначных майстэрнях Мінска, у панскіх маёнтках. Прага да ведаў падштурхнула яго да самаадукацыі і прывяла ў "сялянскі універсітэт" – Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю.

Нясвіжская семінарыя не давала поўнай сярэдняй адукацыі, пасля яе нельга было паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, але можна было атрымаць пасаду настаўніка. Адам Багдановіч працаваў загадчыкам пачатковага вучылішча ў Мінску, служыў у банку ў Гродне, а пасля смерці жонкі пераехаў з сям'ёй у Расію – Ніжні Ноўгарад, Яраслаўль.

На ўспамін аб Беларусі засталіся кнігі – этнаграфічныя працы, зборы легенд, фальклору. Гэта былі адзіныя кнігі на беларускай мове, бо беларуская мова была забаронена, на ёй можна было выдаваць толькі этнаграфічныя матэрыялы! І магчыма, каб не гэтыя кнігі з бібліятэкі этнографа Адама Багдановіча, па якіх спасцігаў мову і свет беларускай культуры Максім Багдановіч, дык цудоўны паэт быў бы для Беларусі страчаны, а імя ягонае папоўніла бы бліскучую плеяду расійскіх паэтаў пачатку 20 стагоддзя.

Адам Багдановіч разумеў каштоўнасць творчасці свайго сына. Калі аднойчы ў Яраслаўлі здарыўся жудасны пажар, не было часу нічога ўратаваць, але Адаму Багдановічу трапілася невялікая металічная скрыня. Ён схаваў туды не свае ўласныя даследаванні, а вершы сына...

Адам Багдановіч пражыў доўгае жыццё, перажыў свайго сына Максіма на 23 гады. Ён пакінуў вялікую спадчыну, але сёння пазнаёміцца з ёю няпроста. Частка матэрыялаў згарэла, згубілася. Частка дагэтуль ненадрукаваная, захоўваецца ў рукапісах. Надрукаваныя творы ўжо зрабіліся рарытэтамі. Шкада, што сённяшняму чытачу амаль ужо невядомы чароўны свет беларускага фальклору, часта цікавейшы за сучасную "фэнтэзі".

**Наталля МЯЦЕЛЬСКАЯ.**

## ПРОГРАММА ТВ — ВОСКРЕСЕНЬЕ, 25 МАРТА

**БТ**
7.00 Мультфильм.
7.25 Детективный сериал «Жюли Леско».
9.00, 15.00 Новости.
9.15 «Новые приключения гномов». Мультсериал(Испания).
9.45 Юмористический сериал «Кувалда»(США).
10.15 «Все нормально, мама!». Развлекательная программа.
10.45 Премьер-парад.
11.15 Большой завтрак.
11.45 Арсенал. Программа об армии.
12.15 «Мумми-Тролль и другие», «Мумми-Тролль и комета», «Путь домой». Мультфильмы.
13.10 Документальный сериал «Великие женщины века». Джейн Фонда.
13.40 Сериал по выходным. «Ключ к полям». 6-я серия.
14.35 25-й кадр.
15.00 Новости.
15.15 «Встреча в Троицком» с Александром Домарацким.
15.45 Криминальное досье.
16.15 Премьера телеэкрана. Историческая драма «Император и убийца».
18.50 Планета «АРТ».
19.20 Теленавигатор.
19.40 Телебарометр. Прогноз погоды.
20.00 Резонанс.
20.50 Спорт-курьер.
21.10 Ж.Маре в худ.фильме по роману О.де Бальзака «Шуаны»(Франция).
22.40 Звезды Берлинского кинофестиваля в программе «Новая коллекция». Передача 3-я.

**ОРТ**
06.45 Слово пастыря.
07.00 Новости.
07.10 Служу России!
07.40 «Дисней-клуб».
08.10 Утренняя звезда.
09.00 Новости.
09.10 «Непутевые заметки».
09.30 Пока все дома.
10.10 Фильм «Ожог».
12.05 Утренняя почта.
12.40 Клуб путешественников.
13.20 «Эх, Семеновна!».
14.00 Новости.
14.10 Сериал «Китайский городовой».
15.05 «Дисней-клуб».
15.35 Умницы и умники.
16.00 Живая природа. «Правда об обезьянах».
17.00 Новости.
17.25 Комедия «Маленький купальщик».
19.20 Боевик «Разрушитель».
21.30 Времена.
22.45 «На футболе».
23.25 Фильм «Телохранитель».

**РТР**
06.30 «Доверчивый дракон». Мультфильм.
06.40 Фильм «Звонят, откройте дверь».
07.55 Прогноз погоды.
08.00 Русское лото.
08.40 «ТВ Бинго шоу».
09.35 Доброе утро, страна!
10.05 «Аншлаг» и Ко.
11.00 «Городок».
11.30 Федерация.
12.10 Парламентский час.
13.00 Вести.
13.20 Диалоги о животных.
14.20 Вокруг света.
15.25 «Два рояля».
16.20 Сам себе режиссер.
17.00 «Зеркало».
18.20 Комедия «Безумно влюбленный».
20.20 Фигурное катание. Чемпионат мира. Женщины. Произвольная программа.
21.05 Мелодрама «Белый танец».
23.00 Фильм «Табу».
01.00 Док.фильм «Видеомагнитофон - слово японское».
01.30 Прогноз погоды.

**НТВ**
07.00 Сегодня.
07.15 Приключенческий фильм «Остров сокровищ».
09.00 Сегодня.
09.15 Фильм «Восемьсот лье по Амазонке».
11.00 Сегодня.
11.25 «Депрессия».
11.50 Сериал «Визит к Минотавру».
13.20 Премьера НТВ. «Лицо кавказской национальности». Фильм Александра Тихомирова. 1-я серия.
14.00 «Третий тайм».
15.00 Сегодня.
15.35 Путешествия натуралиста.
16.10 Большие родители.
16.50 Сериал «Новые приключения Никиты».
18.00 Итоги.
19.45 Куклы.
20.00 Сериал «Улицы разбитых фонарей».
21.15 Фильм «Ледяной ветер».
23.30 Футбольный клуб».
00.10 Сериал «За гранью возможного».

**КУЛЬТУРА**
09.05 ДТА.
09.30 «Маленький беглец». Худ.фильм.
11.15 Фильмы о животных.
11.40 Бабушкины рецепты.
11.50 «Про Петрушку». Мультфильм.
12.10 Графоман.
12.35 Ток-шоу «Наобум». Олег Меньшиков.
13.00 «Мой Эрмитаж».
13.30 Новости культуры.
13.45 Театральная летопись XX века. Михаил Ульянов.
14.10 «Елизавета». Худ.фильм. 6-я серия.
15.40 Тем временем.
16.05 «Серебряный голос России». Олег Погудин.
16.45 «Стелла Адлер. «Проснись и мечтай».
17.40 Обсерватория.
18.05 «Карьера Димы Горина». Худ.фильм.
19.40 Вечерняя сказка.
19.50 «Ох, уж эти детки». Мультсериал.
20.05 «Андре Превин». Музыкальный фильм.
21.00 Новости культуры.
21.20 Личные воспоминания о большой жизни.
21.25 «С потолка». «Кирилл Лавров. После юбилея».
21.50 «Пан Володыевский». Худ.фильм. 2-я серия.

**ТВ6**
05.40 Фильм «Оловянный солдатик».
07.25 Дорожный патруль.
07.40 «Star Старт».
08.15 «Шоу Бенни Хилла».
08.55 Интернет-программа «Сеть».
09.25 Телемагазин в Минске.
09.45 «Я знаю все!». Интеллект-шоу LG.
10.45 Трансляция Чемпионата мира по биатлону среди юниоров.
12.35 «Все в сад!».
13.00 Канон.
13.25 Дорожный патруль.
13.50 «Ой, мамочки!».
14.20 Сериал «Самые громкие преступления XX века».
14.55 «Амба-ТВ».
15.25 Телемагазин в Минске.
15.35 «Вы - очевидец».
16.45 Катастрофы недели.
17.40 Дорожный патруль.
17.55 Ваша музыка. Алексей Глызин и Алла Горбачева.
18.50 Боевик «Завтра не придет никогда».
20.40 Фильм «Кавказский пленник».
22.35 «Х-фактор».
23.10 «Вечеринка из «Метелицы».




РАБОЧЫ
ШТОТЫДНЁВАЯ МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Заснавальнік і галоўны рэдактар **Віктар ІВАШКЕВІЧ**

*Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1255 ад 27.12.99г. Наклад 20 000. Нумар падпісаны ў друк 13.03.2001 г. у 19.00. Заказ 237*
*Надрукавана ў друкарні ПП "Мэджык" (г.Мінск, вул.Кнорына, 50а)*



Адрас рэдакцыі:
**220030, г.Мінск, пл.Свабоды,23, «РАБОЧЫ»**
**E-mail: kapp@irex.minsk.by**
Тэл. (017)227-04-54
Тэл./факс (017)227-13-16